Міністэрства інфармацыі разблакавала сайт “Народнай Волі” www.nv-online.info. Заходзьце і заставайцеся з намі!

№ 2 (4766)

10 студзеня 2023 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.




# Народная Воля

*На простор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

ЛЁС ЧАЛАВЕКА

## Бацька Марыі КАЛЕСНІКАВАЙ: «З пачатку года інфармацыі пра здароўе дачкі няма...»

Нагадаем, Марыю Калеснікаву, экс-кіраўніка штаба **Віктара Бабарыкі,** затрымалі на пачатку верасня 2020 года. Пасля чаго спецслужбы паспрабавалі вывезці **Марыю Калеснікаву** з Беларусі ва Украіну. На мяжы Калеснікава парвала свой пашпарт, каб пазбегнуць вымушанай дэпартацыі, і ў выніку апынулася за кратамі.

6 верасня 2021 года Мінскі абласны суд палічыў Марыю Калеснікаву вінаватай у здзяйсненні злачынстваў, прадугледжаных ч.1 арт.357, ч.3 арт.361, ч.1 арт.361-1 Крымінальнага кодэкса і прысудзіў да 11 гадоў пазбаўлення волі. Гаворка ідзе, у прыватнасці, аб змове з мэтай захопу дзяржаўнай улады неканстытуцыйным шляхам, стварэнні экстрэмісцкага фарміравання і кіраванні такім фарміраваннем, публічных закліках да захопу дзяржаўнай улады. Хоць такі вердыкт, акрамя абурэння, нічога іншага не выклікаў у цывілізаванай грамадскасці як нашай краіны, так і замежжа.

На пачатку мінулага года Марыю этапіравалі ў Гомельскую калонію. Больш за месяц таму стала вядома, што Марыя патрапіла ў шпіталь з хірургічнай паталогіяй, яе прааперавалі 28 лістапада.

5 снежня Марыі Калеснікавай дазволілі паразмаўляць у палаце з бацькам, але не сам-насам, а ў прысутнасці супрацоўнікаў МУС.

На днях у Інтэрнэце з’явілася інфармацыя *“са спасылкай на іншых вязняў”*, што Марыя



Калеснікава да гэтага часу застаецца ў санчастцы Гомельскай калоніі, а стан здароўя яе як быццам не вельмі добры. Ці так гэта на самай справе? З гэтым пытаннем “Народная Воля” звярнулася да бацькі Марыі...

– Тую інфармацыю, што з’явілася пра дачку, ні пацвердзіць, ні абвергнуць не магу, – сказаў **Аляксандр Паўлавіч КАЛЕСНІКАЎ**. – Ад Машы я не атрымліваю лісты з пачатку года, хаця дакладна ведаю, што піша яна мне пастаянна. Адвакат таксама не можа прарвацца да Марыі, бо, як быццам бы, няма ад дачкі заявы на сустрэчу з адвакатам.

Спадзяюся, што пасля Калядаў атрымаю якую-небудзь вестачку ад дачкі, бо таксама ж хвалююся пра яе здароўе. Раней я звяртаўся да кіраўніцтва папраўчай установы, каб прадаставілі больш поўную інфармацыю пра стан здароўі Машы, але адказ быў прыкладана такі: адчувае яна сябе нармальна, лекамі і лячэннем забяспечана...

**– Калі вы атрымалі апошні ліст ад Марыі?**

– 2 студзеня, а адпраўляла Маша пісьмо 30 снежня. Паведаміла, што пакуль і на самай справе знаходзіцца ў санчастцы, але вельмі спадзяецца на выздараўленне. Стараецца падтрымліваць бадзёры настрой, усміхацца... Адным словам, ліст быў на пазітыве.

Трэба адзначыць, што ў снежні нам дазволілі перадаць Машы перадачу з дыетычным харчаваннем, і гэта дачку падтрымала. Яна напісала, што здаровыя прадукты ёй пайшлі на карысць. А перадалі мы розныя дзіцячыя пюрэ, паштэты, булёны... Папрасіла мармелад без цукра, зефір, садавіну і гародніну. Спіс, да слова, быў узгоднены з медыкамі калоніі.

Хачу таксама дадаць, што Машы дазваляюць прагулкі на свежым паветры, пра што яна таксама напісала. Можна гуляць тры разы на дзень па дваццаць хвілін, таму дачка радасна паведаміла мне, што падчас такіх прагулак ставіць свае маленькія рэкорды – адзін раз зрабіла 5 тысяч крокаў. Распавяла, што збіраецца павялічваць нагрузкі.

Зрэшты, як ужо казаў, гэта навіны тыднёвай даўніны. Спадзяюся, што за гэты тыдзень з дачкой нічога кепскага не здарылася, а чарговая інфармацыйная блакада закончыцца...

**Сяргей ЗАБЛОЦКІ.**

С МОЕЙ КОЛОКОЛЬНИ



Елена МОЛОЧКО

## Не стреляйте в дирижера!

Недавно по некоторым сми пробежала, как огонь по бикфордову шнуру, обжигающая информация: из Большого театра уволен очередной дирижер. Мол, уже четвертый по счету! Скоро там останутся просто развалины...

Внесу существенную поправку: маэстро Олег Лесун – а именно о нем шла речь – не уволен из штата. Хотя, действительно, снят с репертуара. Все спектакли января (и февраля) идут и будут идти под руководством других дирижеров. А фамилии Лесуна на афишах уже нет. Хотя по-прежнему она осталась на сайте в разделе «Труппа». Олег Владимирович сейчас подвешен в воздухе – как мишень. Он на крючке. И выстрел в его карьеру в Большом многим кажется неизбежным. Потому что в стране давно запущен каток репрессий. Головы летят справа и слева. И вот, якобы, настала очередь О.Лесуна. А, позвольте спросить, за что?

Я совершенно не владею информацией о политических предпочтениях Олега Владимировича. Потому что он никогда публично их не транслировал, на баррикадах не стоял, протестным флагом не размахивал, кроме того, что в социальных сетях опубликовал одно-два фото с уличных маршей 2020 года. А кто в те дни, смею спросить, смог удержаться от этого во многом стихийного порыва? Был шторм. Идеальный шторм. Кого из нас хоть на мгновение не увлекли его брызги? Тем более артиста, человека с художественной натурой. Мало кто из нас был искушенным политиком, чтобы разбираться в подводных течениях, но как быть равнодушным когда под окнами разворачивается настоящий политический театр?

Кем именно в те дни ощущал себя дирижер -- участником или зрителем того театра – я не знаю. Но совершенно точно знаю, что последние два года Олег Владимирович до седьмого пота занимался музыкой, своей профессией, и политики в его жизни места не было. Не в последнюю очередь и потому, что в Большом той осенью сложилась ситуация экстраординарная. Его покинули старшие коллеги – известные талантливые дирижеры Вячеслав Чернухо-Волич и Андрей Галанов. Не по своей воле. Через год из-за творческих амбиций уволился молодой дирижер Дмитрий Матвиенко. Оставшимся маэстро работы прибавилось втрое. Надо был тянуть (причем, на высоком уровне!) весь старый репертуар, а еще делать премьеры, ставить новые оперы. И делал их как дирижер-постановщик именно Олег Лесун. Именно ему художественное руководство театра поручило постановки новых опер «Самсон и Далила» Сен-Санса и «Любовный напиток» Доницетти. И Олег Владимирович прекрасно справился с работой, хотя нагрузка была порой колоссальная: утром – репетиции нового произведения, вечером – спектакль по графику. Маэстро всецело был поглощен музыкой, работой.

И вот теперь без объяснения причин человека отстраняют от оркестра, от работы, держат на голодном творческом пайке с очевидной перспективой последующего увольнения. То есть показательно наказывают. За что, повторю свой вопрос? Неужели за два фото в Фэйсбуке двухлетней давности? Но это же глупо, недальновидно, попросту жестоко! И потом: «Cui bona?» -- «Кому это выгодно?» – вспомним древнеримского политика Цицерона. Ясно, что не Большому театру. Дирижер – профессия штучная. Театры ими не разбрасываются. А еще ковровые увольнения из учреждений культуры, которые прошли по театрам и музеям страны, плохо отражаются и на обществе в целом – мы все, по-моему, хотим уже покоя и созидания. Хватит показательных казней! Хватит кошмарить культуру.

Кстати, из опытных дирижеров в штате Большого, если уволят Лесуна, остается лишь маэстро Николай Колядко. Остальные, не в обиду им будет сказано, -- молодые симфонические дирижеры, и в опере они – музыканты начинающие. С кем делать новые постановки? Кому поручать будущие серьезные премьеры?

Да, в театре есть еще обойма приглашенных дирижеров – так сказать, скамейка знаменитых запасных. Конечно, мудрый и многоопытный народный артист Республики Беларусь маэстро Александр Анисимов вытянет любой проект, любую постановку, это верно. Есть еще Александр Иванов и Джанлуко Марчано – но один сейчас работает в Ростове, другой в Италии. Ну, дай Бог, чтобы согласились подставить свои спины и вывезти театр из кадрового клинча.

Но вообще самым логичным в год мира и созидания было бы примирение. Давайте уберем снайперов с позиций. Не стреляйте в дирижеров! Перестаньте целиться в артистов. Никому не нужно выжженное поле в культуре. Что на нем может вырасти? И главное – когда? Есть уже один пример разоренного творческого гнезда – Купаловский театр. Даже полноценную новую труппу набрать не могут, как ни стараются. Разве мы пожелаем такую судьбу нашему Большому? Это будет просто разрыв сердца.

Сколько можно кошмарить культуру?

ЧУЛІ?

## Кіраўнік медцэнтра «Нардзін» аднавіў прыём пацыентаў

*Дзмітрый Сайкоў, які быў арыштаваны, выйшаў на волю і ўжо прымае пацыентаў у сваім медыцынскім цэнтры.*

Нагадаем, што ў маі 2022 года многія інфармацыйныя рэсурсы паведамілі пра затрыманне заснавальніка і кіраўніка «Нардзіна» Дзмітрыя Сайкова і ягонай жонкі Іны на іх лецішчы ў Браславе.

У самым медцэнтры 13 мая супрацоўнікамі Дэпартамента фінансавых расследаванняў быў праведзены вобыск. Пры гэтым праца медустановы не прыпынялася.

19 мая Камітэт дзяржкантролю паведаміў аб знойдзеных парушэннях у дзейнасці медыцынскага цэнтра» Нардзін пры правядзенні артапедычных аперацый. Сцвярджалася, што клініка *«сістэматычна аказвала паслугі без наяўнасці ліцэнзіі, у прыватнасці на артапедычныя паслугі»*, а праводзіла іх *«у аперацыйных, не прызначаных для гэтага»*. Акрамя таго, па інфармацыі КДК, выявіліся факты ўхілення ад выплаты падаткаў на суму больш за 500 тысяч рублёў.

У жніўні Міністэрства аховы здароўя прыпыніла ліцэнзію «Нардзін « да ліквідацыі парушэнняў. 29 верасня калегія Міністэрства прыняла рашэнне аб аднаўленні дзеяння ліцэнзіі вядомай прыватнай клінікі.

**Алена НОВІКАВА.**

ГРОМКОЕ ДЕЛО

## Юрий Чиж снова идет в суд

*Известному бизнесмену, основателю компании «Трайпл» инкриминируют сразу несколько статей Уголовного кодекса.*

Дело назначено к рассмотрению на 12 января.

Судя по расписанию суда Центрального района Минска, Юрию Чижу могут быть инкриминированы: статья 424 ч.2 Уголовного – «Злоупотребление властью или служебными полномочиями», статья 243 ч.2 – «Уклонение от уплаты сумм налогов, сборов (редакция утратила силу 26.05.2021)», статья 235 ч.2 – «Легализация («отмывание») средств, полученных преступным путем» и статья 209 ч.4 – «Мошенничество».

Сообщалось, что по первым двум статьям Юрий Чиж вроде бы был помилован, а также компенсировал предъявленный ущерб. Почему они фигурируют – пока не ясно.

Что касается статьи «Мошенничество», то эти обвинения с Чижа не были сняты.

Сам Юрий Чиж для комментариев пока не доступен.

Уголовное дело основателя группы кампаний «Трайпл» будет рассматривать известный судья **Валерий Есьман.**

**Марина КОКТЫШ.**

ПЕРСОНА

## Гарри ПОГОНЯЙЛО: «Надо держаться за свою землю и свою семью...»

*«Народная Воля» поинтересовалась, чем сейчас занимается бывший судья, известный юрист Гарри Погоняйло.*

**– Гарри Петрович, как-то о вас давно не было новостей. Живы–здоровы?**

– Приболел немного, перед Новым годом успел пару вирусов подхватить. Сейчас уже пошел на поправку, а в ноябре приехал с дачи в Минск и столичный воздух меня, видимо, отравил. Подозревали даже воспаление легких, но после того, как сделал рентген, исключили. Поставили ОРВИ.

Только вылечился, стал себя хорошо чувствовать – схватил какой-то гриппер. Видимо, промок под ледяным дождем, ноги промочил, и через два дня – и горло, и кашель, и температура под 39. Все пошло по новой!

Кстати, на суд 14 декабря пошел с температурой больше 38 градусов...

**– В качестве свидетеля вызывали?**

– Нет. Налоговая пытается взыскать с меня средства, а я обжалую это решение. Вот сейчас дело дошло до суда.

**– А какие у вас проблемы с налоговой инспекцией, если не секрет? Расходы превышают доходы?**

– Нет. В 2019 году, оказывается, я получил 1600 евро за наблюдение за выборами в Палату представителей и не заплатил



подоходный налог. Утверждают, что я получил эти деньги от какой-то зарубежной фирмы. Вначале называли одну кампанию, потом другую. Мне представили документы, которые, по сути таковыми не являются – скриншоты с компьютеров, которые, видимо, были конфискованы при обысках. Проходил я по делу Алеся Беляцкого, которое сейчас рассматривают в суде.

**– Вас уже вызывали на суд правозащитников в качестве свидетеля?**

– Нет. И, скорее всего, не вызовут. Потому что я никаких показаний не давал – мне нечего было сказать по сути вопроса.

Но, видимо, Следственный комитет переслал материалы в виде этих самых скринов в Министерство по налогам и сборам, а они – в территориальные налоговые инспекции с требованием провести проверки и взыскать налоги.

**– И налоговая проверила ваши доходы за многие годы?**

– Нет. Попросили заполнить декларацию о доходах и признаться, что я получил эти деньги и не выплатил подоходный налог. Я никакой декларации не заполнял, объяснив это тем, что налоговая не располагает никакими документами, а то, что мне представили в Следственном комитете – это не понятно что: то ли скриншот, то ли фотошоп. Владея техникой, можно какие угодно документы сделать! Подпись стоит вроде бы похожая на мою, но я не могу этого подтвердить, потому что не вижу оригинала документа или хотя бы его заверенной копии, как этого требуют Процессуальный и Налоговый кодексы. Поэтому о чем тут говорить? Так можно миллиард нарисовать и сказать, что я его из-за границы получил.

Тем не менее, на основании таких «сопливых» доказательств, проверка пришла к выводу, что я получил эти деньги, а раз получил, то должен заплатить подоходный налог вместе с начисленной пеней. И я обжалую эти моменты.

**– Как вы отреагировали на смерть Олега Гулака, с которым вы вместе работали в Белорусском Хельсинкском комитете, который власти ликвидировали?**

– Я послал свои соболезнования его жене Насте. Очень печальная весть...

Почти все, кто когда-то работал в БХК, уехали за рубеж. В Беларуси мало правозащитников из БХК осталось: кто в Германии, кто в Польше, кто в Литве...

Конечно, то, что происходит в Беларуси... Мое сердце просто разрывается от различных новостей... В суде Беляцкий, Стефанович и Лабкович сидят в железной клетке, за решеткой, так еще и наручники с них не сняли! При таком конвое можно было и без клетки, и без наручников.

Мы всегда забываем, что до вынесения приговора суда на скамье подсудимых сидят невиновные, и должна действовать презумпция невиновности. Иначе это бесчеловечное отношение, унижение чести и достоинства человека, который еще не признан судом виновным. Но у нас, похоже, все делают для того, чтобы унизить человека. Это старые советские приемы...

У меня, может, потому и здоровье в последнее время хрупкое стало, что много переживаю и не могу всё это слышать и видеть... Катимся в тартарары...

**– У вас не возникало желания уехать за границу?**

– Нет!

Если, не дай Бог, выпадает такое «счастье» попасть в тюрьму, то чего бояться? В тюрьме родился, в тюрьме, если случится самое плохое, и умру. Я не тот человек, который побежит куда-то прятаться. Что я там, за границей, делать буду? Кому я там нужен? Здесь у меня семья, родные, близкие, друзья. Надо просто делать то, что можешь, держаться за свою землю, за свой дом, за свою семью и друзей. А там ты никому не нужен и никто тебя не вспомнит... Даже если там положат какую-то социальную пенсию – это все грустная жизнь очень. Я знаю, что такое чужбина...

**Марина КОКТЫШ.**

Народная Воля
10 СТУДЗЕНЯ 2023 г.

СУД

# Чаму не могуць пачаць працэс над Андрэем Пачобутам?

*Суд над гродзенскім журналістам у чарговы раз перанеслі.*



Спачатку паведамлялася, што суд над **Андрэем Пачобутам** павінен быў пачацца ў Гродзенскім абласным судзе 28 лістапада. Затым працэс перанеслі на 9 студзеня. Але і ў гэты дзень суд не пачаўся – гэтым разам ён перанесены на 16 студзеня. Застаецца толькі здагадвацца, па якіх прычынах.

Нагадаем, што Андрэя Пачобута абвінавачваюць паводле ч. 3 арт. 130 КК (*"здзяйсненне групай асобаў наўмысных дзеянняў, накіраваных на распальванне нацыянальнай, рэлігійнай варожасці па прыкмеце нацыянальнай, рэлігійнай, моўнай прыналежнасці і здзяйсненне наўмысных дзеянняў для рэабілітацыі нацызма"*) і ч. 3 арт. 361 КК (*"заклікі да мераў абмежавальнага характару (санкцыяў), накіраваных на прычыненне шкоды нацыянальнай бяспецы"*).

У кастрычніку Андрэй Пачобут быў унесены ў спіс асобаў, датычных да тэрарыстычнай дзейнасці. За кратамі журналіст знаходзіцца ўжо паўтара года.

**Віктар ШПАК.**

SOS!

# Прозрение?



В Беларуси немало людей уже получили реальные тюремные сроки якобы за разжигание вражды и розни. Среди них – те, кто критиковал чиновников, силовиков, судей. Но уже даже некоторые пропагандисты увидели, что реакция «прогосударственной публики» на аресты оппонентов власти ненормальна и может иметь страшные последствия.

В частности, телерепортер **Игорь Тур** в своем телеграмм-канале заступился за айтишников, которых после протестов 2020 года пропаганда сделала едва ли не врагами государства.

Всем понятно, что нет в стране столько айтишников, сколько людей выходило на протесты, вызванные массовыми фальсификациями результатов голосования на президентских выборах. Но запустить против них «вирус ненависти» было проще всего: у айтишников большие зарплаты, с бухты-барахты, по блату, без образования и мозгов в эту сферу не пробьешься… Потому обиженные, оскорбленные, недоучившиеся, завистливые должны были ополчиться на айтишников, как пролетариат на буржуазию. И ополчились. Да так, что даже одиозный Игорь Тур увидел в их ненависти признаки … зарождения нацизма.

Читайте сами его пост в Телеграмм (приводим дословно).

«*Есть много толковых айтишников*, – пишет Тур. – *Какие-то были и есть с прогосударственной политической позицией, хотя их и не доминирующая доля, следует признать. Другие – нейтральны, им всё равно, и имеют право, в общем-то. Третьи – посмотрели на жизнь вне Беларуси, и очень многое поменяли в отношении к государству.*

*И крайне умственно ограниченна реакция на частные случаи с переводом на социальную группу, от частного - к общему.*

*Если задержан айтишник за экстремизм – человек, который пишет «айтишники все элитка, всем им показать кузькину мать, они там либеральные и вообще не наши», или идиот, или пишет, как идиот.*

*Случаются эпизоды взяточничества в вертикали власти – это не значит, что все в вертикали коррупционеры.*

*Случаются эпизоды ДТП с жертвами по вине силовика – это не значит, что все силовики гоняют пьяными по дорогам и сбивают людей.*

*Случаются эпизоды с контрабандой сигарет из Гродно в ЕС – это не значит, что все гродненцы контрабандисты.*

*В 2020-м наши оппоненты устроили сетевое мочилово сотрудников МВД. Очевидно, что любви и нежности к протестующим у сотрудников МВД не прибавилось. Появилась агрессия к источнику мочилова.*

*IT-сфера – важная для Беларуси. Далеко не самая важная, но – важная. И если мы устроим тотальное мочилово айтишников на основе частных случаев – любви и нежности у айтишников к власти не прибавится. Мягко говоря.*

***А вообще – скажу прямо. Меня тревожит то, что в некоторых призывах к мочилову социальных групп от вроде как прогосударственных граждан усматриваются, на мой взгляд, признаки зарождения нацизма.***

*Лет 10-15 назад на Украине было что-то похожее. И тем, кто занимался таким социальным мочиловом, говорилось, что они патриоты, и что их бурная деятельность – это патриотизм. И люди были уверены, что они патриоты Украины. Они искренне так считали. Что давало им сил наращивать мочилово.*

*Но это был не патриотизм, а взращивание нацизма на основе человеческой глупости.*

*Короче, айтишники. Нормальные вы ребята. Как и везде во всех сферах – разные. Есть среди вас и экстремисты, есть и нейтральные, есть и политически разумные.*

*Не обижайтесь на тех, кто пытается мочить всех без разбору на основе принадлежности к профессии, пожалуйста.*

*Это пройдёт*».

И все-таки «вирус ненависти» сам собой не проходит. Он требует серьезного лечения.

Если даже провластный пропагандист увидел в ненавистнических постах «прогосударственной публики» зарождение нацизма, то почему прокуратура и милиция не видят в этих записях и комментариях ничего крамольного и криминального? Или закон у нас не для всех?

**Олег СНОВ.**

ПОСТФАКТУМ

# Бацюшка-казачнік



На Каляды Аляксандр Лукашэнка наведваў мінскі храм у імя свяціцеля Іаана Шанхайскага і Сан-Францыскага, які ўваходзіць у склад сталічнага Свята-Елісавецінскага жаночага манастыра. Увагу грамадскасці падчас гэтага візіту прыцягнуў да сябе духоўнік гэтага манастыра, протаіерэй Андрэй Лемяшонак, які дзякаваў Аляксандру Лукашэнку за падтрымку Расіі. Дзякаваў за падтрымку вайны? За тое, што цывілізаваны свет лічыць злачынствам?..

Хто ж такі святар Андрэй Лемяшонак?

Протаіерэй Андрэй Лемяшонак – чалавек з вельмі пакручастай біяграфіяй.

Айцец Андрэй нарадзіўся ў 1956 годзе ў Мінску, у сям'і служачых. Па маладосці ён быў сапраўдным нефармалам – хіпаваў, захапляўся талстоўствам, шукаў сябе ва ўсходніх філасофіях. Ахрысціўся позна, ў 22 гады. Потым успамінаў, што, калі зайшоў у Мінскі Свята-Духаў кафедральны сабор, "як быццам нарадзіўся нанова".

Андрэй Лемяшонак кінуў Тэатральна-мастацкі інстытут (зараз – Акадэмія мастацтваў), дзе паспеў правучыцца ўсяго год, і ўладкаваўся працаваць вартаўніком у саборы. Ён спаліў усе масты з сабою ранейшым і на працягу трынаццаці гадоў працаваў пры храме: вартаваў, спяваў у хоры, быў званаром... Адной з самых важных падзей у ягоным жыцці стала сустрэча са старцам Мікалаем Гур'янавым, які служыў на востраве Талабск, што на Пскоўшчыне. Менавіта гэты старац, да якога Андрэй Лемяшонак ездзіў вельмі часта, дабраславіў яго прыняць духоўны сан. У 1996 годзе айцец Андрэй пачаў акармляць хворых Рэспубліканскай клінічнай псіхіятрычнай бальніцы ў Навінках. Калі некаторыя сёстры вырашылі прысвяціць сябе манаству, Мітрапаліт Філарэт блаславіў айца Андрэя будаваць непадалёк манастыр і прызначыў яго духоўнікам.

Многія прыхільнікі айца Андрэя будуць здзіўлены, але рэлігійную адукацыю ён атрымаў толькі ў пазамінулым, 2021 годзе, калі скончыў Мінскую духоўную семінарыю. Хаця ўжо досыць даўно мае імідж "мудрага настаўніка" і "высокаадукаванага святара".

Пра тое, што ў прыход прыедзе Аляксандр Лукашэнка, айцец Андрэй паведаміў пастве яшчэ 1 студзеня. І папярэдзіў, што мае што сказаць высокаму візіцёру. Пра што гаварыў і за што дзякаваў – паказалі ўсе дзяржаўныя тэлеканалы.

Дарэчы, протаіерэй Андрэй Лемяшонак у сваіх пропаведзях часта гаворыць пра вайну. Хаця не заўсёды можна разабрацца, пра якую вайну яго прамова: пра вайну чалавека з самім сабой, пра вайну Захада с праваслаўем ці пра вайну ва Украіне.

Вось, напрыклад, цытата з пропаведзі, якая прагучала праз тры дні пасля пачатку спецыяльнай ваеннай аперацыі Расіі ва Украіне. "Мы ніяк не можам прайграць вайну. Мы павінны яе выйграць. Абавязкова! З намі Бог! Украіна, Беларусь, Расія гэта адзіная дзяржава, адзіны народ, адзіная вера. І ўсе, хто хоча падзяліць, хто хоча знішчыць гэта, – яны страцяць усё. Вось так! Ніякіх сумнёваў на гэты конт у нас няма і не будзе".

Важная заўвага: вышэйпрыведзеная цытата – гэта пераклад на беларускую мову. Гаворыць айцец Андрэй выключна па-руску і Беларусь называе выключна "Белоруссия".

Цікава, ці ведаў Аляксандр Лукашэнка, наведваючы храм на Каляды, што словы падзякі яму гаворыць чалавек, які не прызнае беларускую дзяржаўнасць, не прызнае нават назву нашай дзяржавы?.. А калі ведаў, то як да такога ставіцца?..

Праўда, выступаючы перад Аляксандрам Лукашэнкам, айцец Андрэй быў асцярожным у словах: хваляваўся, рабіў шмат паўз, абрываў думку… Звычайна ён не такі, за словам у кішэню не лезе, і пропаведзі свае аздабляе байкамі-жартачкамі: хоць і ўсяго адзін курс, але ўсё ж такі вучыўся ў Тэатральна-мастацкім інстытуце. У пэўнай публікі ён вельмі папулярны.

Айцец Андрэй – бацюшка-казачнік. А людзі казкі любяць. То ён расказвае, што хутка долары будуць валяцца на зямлі, нікому не патрэбныя. То перконвае, што мошчы святога Спірыдона дзіўным чынам стоптваюць тэпцікі, бо святы і сёння ходзіць дапамагаць людзям. Хоць даўно не сакрэт, што грэчаскія манахі разбіраюць тыя тэпцікі на ніткі і раздаюць веруючым. І таму там трэба вязальную фабрыку будаваць, не тое што новыя тэпці закупляць аграмаднымі партыямі.

А зусім нядаўна айцец Андрэй зладзіў сапраўдны "падрыў" пад айчынную і сусветную медыцыну, "знайшоўшы" месца, дзе небяспечны каронавірус і ўвогуле ўсе вірусы цалкам гінуць. І гэта не жарт! Вось цытата з пропаведзі на Новы год. "Прыдумалі, што ў храме можна чымсьці захварэць… Ні на якім Эльбрусе, ні на якім Паміры, ні ў якіх Гімалаях няма такога чыстага паветра, як у царкве. Тут паветра дэзінфікаванае!" – пераконваў веруючых айцец Андрэй.

Дарэчы, калі ён дзякаваў Аляксандру Лукашэнку за тое, што не зачыніў цэрквы і заводы, то, хутчэй за ўсё, дзякаваў менавіта за тое, што падчас пандэміі ў Беларусі не было ніякага каранціну, ўсё працавала.

Хаця нагадаем, што Беларуская праваслаўная царква ў свой час афіцыйна паведамляла, што па стане на сярэдзіну снежня 2021 года сярод духавенства ў епархіях Беларускага Экзархата было зафіксавана 787 пацверджаных выпадкаў захворвання COVID-19. «З пачатку пандэміі 28 святароў памерлі ад ускладненняў, выкліканых каранавіруснай інфекцыяй. У ліку спачылых два архірэі – ганаровы Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі, мітрапаліт Філарэт і схіепіскап Пётр Дзятлаўскі», – гаварылася ў паведамленні.

Але ці важныя факты, калі бацюшка – казачнік?! І падобна на тое, што Аляксандр Лукашэнка – адзін з тых, хто ўпадабаў ягоныя казкі.

**Ірына МАЛЬЦАВА.**

ТЫМ ЧАСАМ...

## Затрымалі за малітву аб абаронцах Украіны

Напярэдадні свята Божага нараджэння сілавікі затрымалі ў Мінску святара Дыянісія Карасцялёва, які служыць у храме іконы Божай Маці «Усіх тужлівых Радасць».

Як паведаміў адзін з праўладных тэлеграм-каналаў, Карасцялёў «агітаваў за нацыстаў з «Азова» і «прапаведаваў варожую агрэсіўную рыторыку, спрабуючы распальваць нянавісць».

Аўтары канала заяўляюць, што святар прыцягваўся да адказнасці за ўдзел у пратэстах і мае татуіроўку з «Пагоняй».

Сам святар на апублікаваным відэа кажа, што 1 студзеня пасля асноўнай службы адслужыў малебен, на якім маліўся за воінаў Украіны.

Дыянісій Карасцялёў – сын вядомага сталічнага святара, протаіерэя Ігара Карасцялёва, які ад імя БПЦ апякуе прарасійскае беларускае казацтва.

ПРЫЕХАЛІ!

## У мінулым годзе продажы аўтамабіляў скараціліся ў 2,7 раза

У 2022 годзе дылеры Беларускай аўтамабільнай асацыяцыі прадалі 17.234 аўтамабілі, у тым ліку 14.843 легкавыя. Адметна, што ў 2021 годзе ў Беларусі было прададзена 46.837 новых аўтамабіляў.

Праўда, у Беларускай аўтамабільнай асацыяцыі адзначаюць, што збыт легкавых аўтамабіляў у снежні вырас на 82 працэнты ў параўнанні з лістападам – да 1683 машын. Пры гэтым аб'ём продажаў усё роўна быў на 62 працэнты ніжэйшы за леташні паказчык. Па выніках 2022 года Geely стала лідарам рынку з 4355 прададзенымі машынамі. На другім месцы Lada – 3782, KIA – 1462 аўтамабілі.

"*У 2022 годзе, улічваючы сыход вядучых сусветных брэндаў з расійскага рынку і замарозку вытворчасці папулярных мадэляў, якія збіраюцца ў Расіі, беларускія дылеры вырашалі пытанне з фарміраваннем новай мадэльнай лінейкі і перанакіраваннем паставак*, – патлумачыў вынікі году кіраўнік ТАА "Аўтапрамсэрвіс" **Андрэй Ткачоў**. – *Гэты працэс будзе працягвацца і ў 2023 годзе, і вынікі кожнай з марак, прадстаўленых у Беларусі, будуць шмат у чым залежаць ад таго, як хутка змогуць прадстаўнікі беларускага аўтабізнеса арганізаваць пастаўку такіх мадэляў*".

**Ігар СТАСЕВІЧ.**



НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА

Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук

# Ах, война, что ты, подлая, сделала?..

Напомним, что согласно директивам в истекшем 2022 году все экономические показатели экономики Беларуси должны были вырасти: ВВП – на 2,9%, реальные зарплаты – на 2, инвестиции в основной капитал – на 3,3, экспорт товаров и услуг – на 6,3%. Планировалось, что инфляция не превысит 6%. Все поломали война в Украине и вытекающие из нее санкции Запада. Беларусь не осталась к этому из ряда вон выходящему событию, к сожалению, хотя бы нейтральной. Она открыла границу для нападения российских войск на Украину, став таким образом соагрессором. Из-за этого южная соседка, ранее являющаяся важнейшим экономическим партнером, не могла не порвать многие отношения с Беларусью.

Итак, за 11 месяцев ушедшего года ВВП страны упал на 4,7% по сравнению с аналогичным периодом 2021 года, инвестиции в основной капитал снизились на 8%, инфляция составила 15,4, реальные зарплаты в январе-октябре снизились на 3,9, экспорт товаров и услуг уменьшился на 4,6%. Можно предположить, что статистика за полный год окажется не лучшей.

Многие западные компании ушли из страны, релоцировались айтишники, что вызвало падение IT-отрасли. Она давала до половины роста ВВП, поглощала много специалистов, создавала имидж Беларуси, как IT-государства. Остается только вспоминать правильную формулу бывшего министра иностранных дел В.Макея: треть экспорта в страны ЕС, треть – в Россию и треть – в страны дальней дуги. Сегодня торговля с Украиной, на которую работал целый Мозырский нефтеперерабатывающий завод, свернулась почти до нуля, торговля с ЕС обрушилась на 60%, зато торговля с Россией увеличилась на 30%. Ее доля во внешнеэкономическом обороте Беларуси приближается к 70%. Тотальная зависимость экономики страны от России ведет к тому, что любые шоки в ее хозяйстве мгновенно отразятся на Беларуси.

Потенциально санкции против белорусского экспорта и импорта могли привести к гораздо большему падению ее экономики. Благодаря правительству к санкциям частично удалось приспособиться. Многие белорусские товары заняли освободившееся пространство после ухода западного бизнеса из России, активизировались экономические связи с Китаем и с отдельными странами так называемой дальней дуги. В первую очередь, с партнерами в Азии и Африке. За счет положительного торгового сальдо удалось рекордно повысить долларовый эквивалент среднемесячной по стране зарплаты – свыше 700 долларов. Беларусь получила от России кредитную поддержку на 1,7 млрд долларов на импортозамещение.

Но будут ли предпосылки ростовых показателей, которые правительство запланировало на текущий 2023 год? Прогнозируется прирост ВВП на 3,8%, инвестиций в основной капитал – на 22,3, экспорта товаров и услуг – на 5,5, реальных располагаемых денежных доходов населения – на 4,1, потребительских цен – в пределах 7–8%. Многие аналитики, исходя из сложившихся тенденций в белорусской экономике, считают этот прогноз излишне оптимистичным. Скажите, как содействовать инвестиционной активности в стране, когда те же иностранные инвесторы видят блокировку их активов и планируемую их национализацию? Как уложиться в запланированную инфляцию, когда по состоянию на ноябрь прошлого года только наличная денежная масс по сравнению с ноябрем 2021 года возросла на 40% (рекорд за последние 80 месяцев), а вся рублевая денежная масса – на 24,7%? В структуре республиканского бюджета на 2023 год по-прежнему около 50% расходов заложено на общегосударственную деятельность (например, в Киргизском бюджете этот показатель – 31,5%). За счет увеличения на треть военного бюджета, снижаются доли расходов на соцзащиту и образование.

Как же обстоят дела в экономике России, от состояния которой глобально зависит и экономика Беларуси? Антисанкционные меры правительства России во многом схожи с белорусскими – импортозамещение, разворот в торговле на Азию, параллельный (контробандный) импорт, смягчение падения ВВП. Но надо иметь в виду, что в составе ВВП, особенно российского, растет доля вооружений, боеприпасов, военного обмундирования и т.д. По заявлению российских властей их ВПК работает в три смены. Но почти все это гинет в войне на Украине и, естественно, на благо экономики не идет. Заявленное Росстатом снижение реальных располагаемых доходов населения всего на 1,5% никак не соответствует 10%-ному падению розничного товарооборота в стране. Налицо падение инвестиций в таких отраслях как промышленность, сельское хозяйство, торговля, телекоммуникации. Падение продолжалось и в сырьевой отрасли: добыча угля снижается на 7%, природного газа – более чем на 20%. Добыча нефти прогнозируется в этом году 475 млн тонн, против 525 млн тонн в прошлом. Поплыл к доллару и евро российский рубль. Даже девальвируется к белорусскому. Растет бюджетный дефицит, который все в большей степени покрывается из Фонда национального благосостояния.

Таким образом, экономика России все в большей степени переходит на военно-санкционные рельсы, а экономика Беларуси все в большей мере становится мобилизационной, от чего народам двух стран не приходится ждать ничего хорошего. Спад на 5-10% экономической активности для исторически мало требовательного белорусского и российского обывателя может быть и не так заметен – в магазинах еда есть, не голодаем, зарплаты и пенсии выплачиваются. Значит ничего особенного не происходит. Но это пока… Пока не закончатся военные действия в Украине, строить любые планы малоперспективное занятие, в любой момент все может обрушиться. Как тут не вспомнить поговорку: хочешь рассмешить Бога, расскажи ему о своих планах.

Что и говорить, задача задач – не заниматься бумажной эквилибристикой, а предпринимать всё для того, чтобы остановить войну имперской России против Украины. И от нас, белорусов, многое зависит. Почему нашу землю топчут российские войска? Честно скажем, никакой Запад на нас не нападает и никакой помощи от Москвы в этом плане нам не нужно. Нам только нужно развязать все узлы с тем, чтобы для развития экономики не было никаких преград.

СУД

# «Балюча, што маленькая дзяўчынка засталася без бацькоў»

*18 студзеня ў Брэсцкім абласным судзе пачнуць разглядаць справу Дар'і Лосік.*



Нагадаем, што **Дар'ю Лосік**, жонку палітвязня Ігара Лосіка, затрымалі 18 кастрычніка мінулага года. Блогер і журналіст **Ігар Лосік** цяпер адбывае пакаранне ў калоніі – ён асуджаны на 15 год.

Паводле матэрыялаў справы, Дар'я дала інтэрв'ю *"экстрэмісцкаму фарміраванню", "у якім пазіцыянавала сябе як жонку палітвязня. Яна дала асабістую негатыўную адзнаку дзяржаўным органам, да кампетэнцыі якіх аднесена ажыццяўленне крымінальнага пераследу і правасуддзя. Пры гэтым паведаміла, што яе муж не здзяйсняў крымінальных дзеянняў і асуджаны незаконна. Заклікала сваякоў іншых асуджаных узяць з яе прыклад"*.

Дар'і Лосік пагражае да 7 гадоў апазбаўлення волі.

У Ігара і Дар'і ёсць дачка Паўлінка, якой днямі споўнілася чатыры гады. З кім зараз дзяўчынка, пакуль бацькі знаходзяцца за кратамі?

Цяпер Паўліна жыве ў бабулі і дзядулі – бацькоў Дар'і Лосік, а да гэтага пэўны час была ў бацькоў Ігара. Не так даўно Паўлінка пайшла ў дзіцячы садок.

*"Вельмі балюча, што маленькая дзяўчынка засталася без бацькоў*, – распавядаюць знаёмыя Ігара і Дар'і Лосік. – *Яшчэ добра, што дзяўчынку ў прытулак не забралі, бо ёсць каму даглядаць. Але ўсё роўна ўявіце, як у такой сітуацыі даводзіцца бацькам, якія адарваны ад дачушкі, і як даводзіцца малой, якая вымушана расці без бацькоў"*.

Зараз бабулі і дзядулі афармляюць апеку над унучкай. Паводле закону, з бацькоў дзяўчынкі павінны спаганяць грошы на ўтрыманне дзіцяці, а яны абое за кратамі.

*"Мы самі будзем пагашаць доўг*, – кажуць бацькі палітвязняў. – *Сума там невялікая – крыху больш за 200 рублёў"*.

**Ігар СТАСЕВІЧ.**

ДА ВЕДАМА

## Новыя цэны на газ, цеплавую і электраэнергію для насельніцтва

Урад устанавіў новыя цэны на газ, цеплавую і электраэнергію для насельніцтва. Гэта прадугледжана пастановай Саветаў Міністраў ад 30 снежня 2022 года нумар 952.

Тарыфы на цеплавую энергію для патрэб ацяплення і гарачага водазабеспячэння з 1 чэрвеня па 31 мая ўключна зменены з Br21,9245 на Br24,7187 за 1 Гкал.

Таксама пастановай нумар 952 устаноўлены цэны на газ прыродны і звадкаваны, які выкарыстоўваецца з устаноўленымі прыборамі індывідуальнага ўліку расходу газу і без такіх, тарыфы на электрычную энергію, цэны (тарыфы) на камунальныя паслугі, якія забяспечваюць поўнае пакрыццё эканамічна абгрунтаваных затрат на іх аказанне.

За 1 куб.м прыроднага газу, які выкарыстоўваецца з устаноўленымі прыборамі індывідуальнага ўліку расходу газу, неабходна будзе выплаціць пры наяўнасці індывідуальных газавых ацяпляльных прыбораў з 1 студзеня па 31 мая ўключна – Br0,1993, з 1 чэрвеня па 31 снежня ўключна – Br0,2062. Пры адсутнасці індывідуальных газавых ацяпляльных прыбораў трэба будзе заплаціць – Br0,5477.

Калі газ выкарыстоўваецца без прыбораў індывідуальнага ўліку расходу, то плата будзе спаганяцца з аднаго пражываючага ў месяц пры наяўнасці газавай пліты і цэнтралізаванага гарачага водазабеспячэння або індывідуальнага воданагравальніка (за выключэннем газавага) у памеры Br4,38, пры наяўнасці газавай пліты і індывідуальнага газавага воданагравальніка (пры адсутнасці цэнтралізаванага гарачага водазабеспячэння) – Br12,6, а пры наяўнасці газавай пліты і адсутнасці цэнтралізаванага гарачага водазабеспячэння і індывідуальнага газавага воданагравальніка – Br7,12. Пры наяўнасці індывідуальных газавых ацяпляльных прыбораў (за 1 кв.м агульнай плошчы жылога памяшкання ў месяц) у ацяпляльны перыяд будзе спаганяцца Br0,6872, а ў летні перыяд – Br0,2577.

Кошт балона звадкаванага газу вагой 21 кг у межах норм спажывання складзе Br22,05, або Br1,05 за 1 кг.

Што датычыцца электраэнергіі, то ў жылых дамах (кватэрах) аднаставачны тарыф устаноўлены ў памеры Br0,209 за 1 кВт•гадз для абсталяваных ва ўстаноўленым парадку электрычнымі плітамі, а для іншых – Br0,2459.

Устаноўлены таксама тарыфы для дамоў, у якіх электрычная энергія выкарыстоўваецца для патрэб ацяплення і гарачага водазабеспячэння з улікам наяўнасці прыбораў уліку, цэнтральных сістэм газазабеспячэння і іншых умоў, а таксама дыферэнцыраваныя тарыфы па двух і трох часавых перыядах.

З-ЗА КРАТАЎ

## Блогера Уладзіміра Цыгановіча перавялі ў турму

Як паведамілі родныя Уладзіміра Цыгановіча, за *"сістэматычнае парушэнне ўнутранага распарадку"* калоніі, ў якой палітвязень адбываў пакаранне, яго на тры гады перавялі на турэмны рэжым. Такім чынам, калонію "Віцьба" Цыгановіч змяніў на магілёўскую турму.



Нагадаем, што Уладзіміра Цыгановіча судзілі разам з Сяргеем Ціханоўскім і Мікалаем Статкевічам. Прыгаварылі да 15 гадоў калоніі, але за што канкрэтна – цяжка сказаць, бо суд быў закрытым.

Уладзімір Цыгановіч нарадзіўся ў Брэсце ў сям'і ваеннага, усё дзяцінства правёў у пераездах. На момант развалу Савецкага Саюза ягоны бацька служыў на тэрыторыі Расіі, таму Уладзімір атрымаў расійскі пашпарт. І хоць потым прыехаў вучыцца ў Беларусь, ад грамадзянства Расіі не адмаўляўся. Пасля вучобы нейкі час працаваў у Маскве, а ў 2006 канчаткова пераехаў у Мінск. Ажаніўся, мае дачку.

У час росквіту беларускага відэаблогерства Цыгановіч таксама заняўся гэтай справай. Пачынаў з каментавання эканамічных і грамадскіх навін, потым далучыўся да палітычных падзей – стаў весці трансляцыі з розных акцый, у тым ліку з пікетаў Сяргея Ціханоўскага. Вядомым стаў у 2019 годзе, калі актыўна выказваўся супраць дарожнага падатку і росту коштаў на бензін. Тэма была хвалюючай, колькасць гледачоў блогу Цыгановіча павялічылася. У выніку на яго блог былі запісаны больш за 70 тысяч чалавек.

31 мая 2020 года Уладзімір вёў трансляцыю з перадвыбарчых пікетаў ля сталічнага рынку "Камароўка", перад якім затрымалі Мікалая Статкевіча. Самога Цыгановіча затрымалі пазней, 9 чэрвеня 2020 года, і спачатку арыштавалі адміністрацыйна – на 15 сутак. Тады ніхто нават не чакаў, што ў выніку прыгавор блогеру будзе вынесены максімальна жорсткі – 15 гадоў зняволення: столькі нават не за кожнае забойства даюць.

Вядома, што суд прызнаў Уладзіміра Цыгановіча вінаватым у распальванні варожасці і арганізацыі дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак. Хаця, звярніце ўвагу, затрыманы ён быў да выбараў і да масавых акцый пратэста, таму не зразумела, як з-за кратаў можна было такія дзеянні арганізоўваць.

Абвінавачванне, дарэчы, традыцыйнае, але прыгавор сярод блогераў адзін з самых жорсткіх. На большы тэрмін зняволення – да 18 гадоў – асуджаны толькі сам Сяргей Ціханоўскі.

Расія за свайго грамадзяніна не заступілася.

**Алег СНОЎ.**

ВЫПАДАК

## Ратавалі смеццявоз і знайшлі труп чалавека

У Гродне ў канцы снежня ў адным з двароў па вуліцы Дзяржынскага пад смеццявозам праваліўся асфальт. Машыну, якая захрасла ў правале, неўзабаве вызвалілі з дапамогай аўтакрана, але гісторыя атрымала нечаканы працяг.

Прычынай правалу смеццявоза было тое, што асфальт на дарожцы аказаўся падмытым.



Шукаючы, што да гэтага спрычынілася, выявілі, што працякае труба ў падвале суседняга будынка. А калі ліквідавалі ўжо гэтую праблему, камунальнікі знайшлі парэшткі чалавека.

Як заявіў афіцыйны прадстаўнік УУС Гродзенскага аблвыканкама, смерць гэтага чалавека ніяк не была звязаная з падтапленнем. Мужчына памёр ужо некаторы час таму, задоўга да выпадку са смеццявозам. А не знайшлі труп раней таму, што жыхары практычна не карыстаюцца падвалам, — ніхто без асаблівай патрэбы туды не ходзіць.

Таму труп, як і працёк трубы, ніхто і не выявіў ні тыдзень, ні месяц таму. Смерць чалавека, як паказала экспертыза, крымінальнага характару не мела. А лёсам ягоным ніхто не цікавіўся, бо ён быў бяздомным.

ПАМЯЦЬ

## Вера МІЦКЕВІЧ:

# «Для Якуба Коласа жанчына была – як ікона»

*Каля бронзавага Якуба Коласа, які ся дзіць у Мінску на ўласнай плошчы, я аднойчы правёў міні-апытанне моладзі: што вы ведаеце пра паэта, якому ўсталяваны помнік? Вынікі мяне ашаламілі. Апрача знаёмага са школы “Мой родны кут, як ты мне мілы” ды факта сяброўства з Янкам Купалам першыя пяць чалавек больш нічога сказаць не змаглі... Такія, на жаль, рэаліі. Скажаце, забранзавелыя класікі сёння мала каго цікавяць? А гэта як паглядзець.*

*Нядаўна з друку выйшла кніга “Табой я жыў, табой жыву…”, прысвечаная прыватнаму жыццю Якуба Коласа, якая мала каго пакіне абыякавым. Старонкі кнігі мы пагарталі з унучкай песняра і даследчыцай сямейнага радаводнага дрэва* ***Верай МІЦКЕВІЧ****.*







**– Вера, кніга “Табой я жыў, табой жыву…”,прысвечаная жонцы паэта Марыі Дзмітрыеўне, унікальная ў сваім родзе, я больш не прыгадаю падобных выданняў, прысвечаных спадарожніцам жыцця нашых класікаў. Як узнікла яе задума?**

– Пра Якуба Коласа напісаны дзясяткі кніг – навуковых і мастацкіх, сотні артыкулаў. Нават яго сыны напісалі па кнізе: Даніла Канстанцінавіч – “Любіць і помніць” і Міхась Канстанцінавіч – “Пад бацькоўскім дахам”. Выйшла і кніга “Апалены золак” – пра Юрку Міцкевіча, сярэдняга Коласавага сына, які загінуў на фронце. І вось у гэтым шматлікім шэрагу мы ўбачылі белую пляму – няма нічога пра жонку Коласа Марыю Дзмітрыеўну, пра самага блізкага яму чалавека, яны пражылі разам 32 гады. І вось кніга выйшла і ўспрымаецца з цікавасцю. Ужо прайшлі прэзентацыі ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа, у раённых бібліятэках у Слоніме, Магілёве, Пінску, Лунінцы, Барысаве, у абласной бібліятэцы ў Гродне.

**– Розныя жонкі бываюць у творчых людзей. Бываюць жонкі-музы, жонкі-гаспадыні, жонкі-самаахвярніцы, якія цалкам прысвячаюць сваё жыццё мужам. Кім была Марыя Дзмітрыеўна для Якуба Коласа?**

– Усім. На думку Коласавай малодшай сястры Алены Міхайлаўны Лойка, увогуле не было б вялікага Коласа, калі б столькі гадоў не была з ім побач Марыя Дзмітрыеўна. Што да музы, то мела месца такая гісторыя. Яшчэ да шлюбу ў паэта быў сшытачак вершаў пра каханне, якіх ён нікому не паказваў. Пазнаёміліся яны, як успамінаў дзядзька Міхась, на настаўніцкіх курсах у Пінску. І вось Марыя Дзмітрыеўна знайшла той сшытачак у першы-другі год шлюбу і строга спыталася: “Костусь, каму ж ты прысвяціў столькі лірычных прызнанняў у каханні?”. Паэт адказаў: “Вядома ж, табе!” – “Я зразумела па датах, што мне, але чаму пасля таго, як мы павянчаліся, не з’явілася ніводнага верша?”... На жаль, той сшытачак не захаваўся, мы ведаем адтуль толькі адзін верш – “Дзяўчыне”.

**– Вельмі розныя паэты – Колас і Купала. У тым ліку ў вызначэнні нечага істотнага. Колас напісаў пра жонку: “Табой я жыў, табой жыву”, у Купалы іншы прыярытэт: “Песняй толькі на свеце жыву я”. Але ж гэта не перашкаджала ім сябраваць?**

– У нечым яны сапраўды былі розныя, але шмат што іх і яднала. І Колас, і Купала нарадзіліся ў адзін год – 1882. Іх жонкі – Марыя Дзмітрыеўна і Уладзіслава Францаўна– таксама нарадзіліся ў адзін год – 1891. Але калі Купаліха была дзейнай, уладарнай, любая справа, што называецца, гарэла ў яе руках, то Марыя Дзмітрыеўна мела іншы характар – больш хатні, утульны, сямейны. Ды нездарма ж у народзе кажуць, што жанчына ў сям’і – гэта шыя, якая паварочвае галаву ў патрэбны бок. Дык вось, куды яна накіроўвала, туды Колас і паварочваўся.

**– Тое ж самае, відаць, можна сказаць і пра Купалу. Выходзіць, “падкаблучнікамі” былі першыя народныя паэты…**

– Не, тут гэткае азначэнне наўрад ці падыходзіць. Колас з Купалам сябравалі сем’ямі. Іван Дамінікавіч і Уладзіслава Францаўна любілі бываць у доме Коласа, поўным дзіцячых галасоў, на срэбнае вяселле падаравалі “маладым” срэбныя чаркі. Дарэчы, яны цудам збераглiся – пасля вайны былі знойдзены на папялішчы Коласавага дома, ачышчаныя ад куродыму і пазней перададзены ў музей. Мой бацька і дзядзькі заўсёды атрымлівалі ад Купалы падарункі, часам прывезеныя з-за мяжы. Думаю, што яго верш “Юрачка” быў прысвечаны дзядзьку Юрку, там усё супадае.

**– Марыя Дзмітрыеўна нарадзілася ў Ашмянах, але па нацыянальнасці, здаецца, не беларуска?**

– Па лініі маці яна мела нямецкія карані, з вядомага роду Гогенлоэ, а бацька яе быў рускім. Але яна дасканала ведала і любіла беларускую мову, якая стала для яе роднай. І выхаванне ў сям’і было беларускім. Прычым, апрача ўласных трох сыноў дзед з бабуляй выхоўвалі і чужых дзяцей. Выхаванцы ў сям’і жылі пастаянна – і сын першага дырэктара Коласа Івана Міцкевіча Мікалай (пазней стаў выдатным хімікам, акадэмікам), і далёкая родзічка бабулі Жэня Увядзенская, чыя маці памерла, і Вольга Прачук – бежанка з Гродзеншчыны. На ўсіх у бабулі хапала ласкі, пяшчотных слоў. У кнізе прыводзіцца сведчанне сына Юркі, які на срэбным вяселлі бацькоў устаў і сказаў: “Вялікі дзякуй вам, тата і мама, што за ўсё жыццё я ні разу не пачуў брыдкага слова і ніякай лаянкі паміж вамі”.

**– Калі чытаў кнігу, мяне ўразіў кулінарны талент Марыі Дзмітрыеўны – колькі яна ўсяго гатаваць умела!**

– Так, яна гатавала выдатна. Бацька ўспамінаў, што Марыя Дзмітрыеўна на святы магла выставіць на стол паляндвіцу, каркавіну, зельцы, кумпякі, калдуны, зразы, верашчаку, дранікі, бабку, булён з грыбнымі вушкамі, грыбы марынаваныя і салёныя, цыганскі мазурак, ламанцы… Усё – уласнага вырабу. А яшчэ ўмела выпякаць нямецкі торт “Баўмкухэн” (“Кухоннае дрэва”). У 1925 годзе дзед з бабуляй з такім тортам хадзілі да Купалы на юбілей яго творчай дзейнасці.

**– А яшчэ мяне здзівіла, што Марыя Дзмітрыеўна не баялася ў коле сям’і выказвацца супраць Сталіна. Тут, відаць, наклала свой адбітак асабістая трагедыя – яе брат быў рэпрэсаваны.**

– Не толькі брат. Дзядзька Коласа мовазнавец Язэп Лёсік таксама, як вядома, быў арыштаваны. А брат Марыі Дзмітрыеўны Аляксандр Камінскі, якога забіралі з дома Коласа, так і не вярнуўся, загінуў у Салікамску. Хоць Колас і прыкладаў усе магчымыя намаганні, каб яго вызваліць. Пісаў лісты пракурору і БССР, і СССР – нічога гэта не дало. Так што да Сталіна і сталіншчыны ў сям’і было адмоўнае стаўленне.

**– “Зорка мая”, “мой квеце”, “душы маё палова”, “мая святыня”… Так звяртаўся Якуб Колас да сваёй каханай Марыі, і гэта далёка не поўны пералік эпітэтаў. Такое адчуванне, што народны паэт усе трыццаць два гады глядзеў на жонку захопленымі вачыма. У творчых сем’ях гэта так рэдка бывае…**

– Тое, што муж-паэт узвялічваў жонку ў вершах, – тут дзіва няма. Наогул для Коласа жанчына была – як ікона, як нешта вышэйшае. Але так бачыў Марыю Дзмітрыеўну не толькі Колас. Знакаміты скульптар Заір Азгур, які быў другам сям’і, называў яе Мадоннай. І ўспамінаў пазней: “Самае цікавае, што і Колас глядзеў на яе як на Мадонну!”.

**– Відаць, нездарма менавіта Азгур па просьбе Коласа рабіў надмагільны помнік па Марыі Дзмітрыеўне. Вельмі прыгожы, дарэчы. Дзе толькі ў пасляваенным Мінску белы мармур удалося здабыць?**

– На Вайсковых могілках на яе магіле быў цэлы мемарыяльны куток зроблены, ён, на жаль, ужо не існуе. Там былі дзве літыя з металу лаўкі, а белы мармур прывезлі з Украіны, з Корасценя, там было радовішча. Працавалі спецыяльна запрошаныя ленінградскія каменярэзы, барэльеф і факсімільны надпіс “Майму лепшаму другу”почыркам Коласа зрабіў Азгур. А нядаўна ўдалося перад помнікам маці ўсталяваць памятную дошку сыну Юрку. І цяпер усе сыны – вакол маці. Думаю, душы бабулі і дзеда радуюцца на небе, што ўся сям’я хоць такім чынам сабралася.

**– Чаму Марыя Дзмітрыеўна памерла адносна маладой – на 55-м годзе жыцця?**

– У канцы 1944 года ў яе выявілі анкалогію, у Маскве зрабілі аперацыю, рабілі апраменьванне радыем, і справа нібыта пайшла на папраўку. Марыя Дзмітрыеўна ляжала ў філіяле Крамлёўскай бальніцы ў Сакольніках, там з ацяпленнем былі праблемы, і яна захварэла на запаленне лёгкіх. У пасведчанні прычынай смерці значыцца гэта хвароба.У яе ад нараджэння былі слабыя лёгкія, яна шмат разоў хварэла. Як, дарэчы, і Колас, ён на запаленне лёгкіх хварэў больш за 20 разоў.

**– “На сэрца горыч вірам хлыне, / Як дождж на голле і камлі: / Мой добры друг, мая святыня / Ляжыць адна ў сырой зямлі…”. Па тагачасных вершах Якуба Коласа відно, як ён перажываў.**

– Перажываў, вядома. У лісце да стрыечнага дзядзькі Ігната Міцкевіча пісаў у Мікалаешчыну: “Адчуваю сябе так, як бы мне адсеклі правую руку і адабралі палову душы. Так мне цяжка і пуста”. Браты і сёстры песняра адказалі спачувальным лістом, у якім запрасілі Коласа на радзіму: прыязджай, Кастусёк, Нёман наш, нашы бары цябе палечаць, акрыяеш хутчэй.

*(Заканчэнне на 5-й стар.)*

Народная Воля http://www.nv-online.info 10 СТУДЗЕНЯ 2023 г.

(Заканчэнне. Пачатак на 4-й стар.)

**– У кнізе "Табой я жыў, табой жыву…" публікуецца цікавы дакумент – спачувальны ліст Якубу Коласу ў сувязі са смерцю жонкі ад Урада БССР, падпісаны Панцеляймонам Панамарэнкам і яшчэ дзесяццю членамі ўрада. Дарэчы, напісаны, не чыноўніцкай, а чалавечай мовай. Сёння, калі на пахаванні народных пісьменнікаў чыноўнікі нават не прыходзяць, нешта падобнае цяжка і ўявіць.**

– Тады да нацыянальнай культуры і яе творцаў у рэспубліцы было куды больш пашанлівае стаўленне. Яно захоўвалася і пазней. Я ўспамінаю, як у Палацы спорту святкавалася 50-годдзе БССР, была вялікая ўрачыстасць, на якую бацьку далі запрашальнік, прычым на ўсю сям'ю. І вось бацька з маці і я, на той час васьмігадовая, стаім у перапынку на выхадзе з залы. Данілу Канстанцінавіча пазнаў першы сакратар ЦК КПБ Пётр Міронавіч Машэраў і паклікаў пагаварыць. Бацька пайшоў адзін, а Машэраў яму: "Вы ж з сям'ёй – клічце ўсіх". І мы пайшлі, я стаяла побач з кіраўніком БССР. Для яго гэта была звычайная сітуацыя – Машэраў любіў абмяркаваць справы не ў кабінеце. І падчас падобных размоў вырашаліся многія пытанні, датычныя Музея Коласа, дзе бацька шмат гадоў працаваў дырэктарам. Добрым словам варта згадаць і таго ж Панамарэнку, які падпісаў пастанову Бюро ЦК КПБ аб ушанаванні памяці Якуба Коласа праз два дні пасля смерці песняра – стварыць музей, паставіць у сталіцы помнік, пэўным установам надаць імя Коласа... У той пастанове пунктаў дваццаць было, якія потым паступова выконваліся.

**– У канцы мінулага года вы, Коласавы нашчадкі, прысутнічалі ў Стоўбцах на адкрыцці помніка Коласу. А там да вас хто-небудзь з высокага начальства падышоў?**

– Ніхто не падышоў.

**– Нават старшыня Стаўбцоўскага райвыканкама?**

– Па-мойму, яго там і не было. На адкрыцці мы стаялі з аўтарамі помніка Іванам Якімавічам Міско і Уладзімірам Піпіным. Помнік нам спадабаўся. Знаходзіцца ён у добрым месцы – у скверы, непадалёк школа і дзіцячы садок, цэнтральная вуліца. Зразумела, што на радзіме Коласа павінен быў паўстаць малады пясняр. Але зусім маладога нельга было рабіць, бо тады б яго ніхто не пазнаваў. Дзякуй Богу, была знойдзена залатая сярэдзіна, помнік атрымаўся. Мы шмат разоў хадзілі ў майстэрню да Міско, праглядалі эскізы, рабілі свае заўвагі. І, трэба сказаць, скульптары да нас прыслухоўваліся.

**– Агульнавядомы факт: Якуб Колас у апошні дзень свайго жыцця хадзіў у ЦК КПБ з лістом у абарону беларускай мовы. Як бы ён успрыняў сённяшні катастрафічны стан роднай мовы (дзяржаўнай па Канстытуцыі!)? Ці пайшоў бы кудысьці сёння з гэткім жа лістом?**

– Відаць, пайшоў бы. Колас усё ж быў упłывовай асобай, дэпутатам Вярхоўнага Савета. Іншая справа – куды пайшоў бы? Да каго? Вось тут пытанне… Так, яму было б вельмі крыўдна, што і на трыццаць першым годзе незалежнасці беларуская мова так і не стала паўнапраўнай гаспадыняй ва ўласным доме, што мы па-ранейшаму ў старой ступе ўсё таўчомся. А выпраўляць становішча з мовай трэба пачынаць з дзіцячага садка, са школы і, калі хочаце, з гандлю. Мне так здаецца, я ж вучылася на гандлёва-эканамічным факультэце. Калі б установы гандлю перайшлі на беларускую мову, гэта была б вялікая справа. Згадайце, такія прыклады ўжо мелі месца, напрыклад, у "Еўраопце" людзі спецыяльна станавіліся ў чаргу да беларускамоўнай касы.

**– А яшчэ выключнае месца займае сям'я. Ніхто ж не можа прымусіць людзей размаўляць на чужой мове са сваімі роднымі. Вось жа Коласава сям'я – выдатны прыклад. Сыны Данілы а Міхась і самі па-беларуску размаўлялі, і сваіх сямейнікаў прывучалі.**

– Я свайму ўнуку Данілу стараюся чытаць толькі беларускія кнігі. І ён мне чытае, праўда, пакуль марудна. Вось "Савося-распусніка" нядаўна прачыталі, цяпер узяліся за "Рака-вусача".

**– Нядаўна мы развіталіся з 2022-м. Што вы пажадаеце суайчыннікам у Новым годзе?**

– Па-першае, самае галоўнае пажаданне – здароўя. Па-другое, шанаваць усё сваё: сваю радзіму, сваю мову, сваю зямлю, свае традыцыі. І не толькі шанаваць, але і карыстацца імі ў жыцці. Пабольш падарожнічаць па Беларусі, любавацца яе цудоўнымі краявідамі, знаёміцца з цікавымі людзьмі. Зусім не абавязкова лятаць у Турцыю, можна выдатна адпачыць на беларускіх азёрах, многія з нас нават не ўяўляюць, якія ў нас ёсць прыгажосці!І па-трэцяе, беларусам трэба трымацца разам. І тады мы адолеем любыя перашкоды.

**Міхась СКОБЛА.**

**На фота:**

**1. Вера Міцкевіч з унукам Данілам каля помніка Якубу Коласу ў Стоўбцах. 2022 год.**
**2. Вера Міцкевіч.**
**3. Якуб Колас з жонкай Марыяй Дзмітрыеўнай і сынам Данілам. 1917 год.**

ВЕРСИИ

# «Путин хотел превратить Украину в еще одну Беларусь»

Почему США не закрыли небо над Украиной, как Путин нашел путь к Илону Маску, может ли сегодня мир спасти оппозиционеров из тюрьмы – The New Times задал вопросы бывшему специальному помощнику президента США по европейским и российским делам (апрель 2017– июль 2019) **Фионе Хилл.**




**– Путин заявил, что Россия не собирается применять ядерное оружие ни в качестве первого удара, ни в качестве ответного удара, однако опасность ядерной войны становится все больше. Что вы думаете по этому поводу?**

– Я с самого начала говорила, что если бы Путин мог применить ядерное оружие, он бы это сделал, чтобы добиться желаемого эффекта. Он знает, что даже разговоры об этом вселяют ужас в умы. По сути это психологическая операция. Потому что Путин хорошо знает, какой была реакция на Кубинский ракетный кризис 60-летней давности. Он хорошо помнит также кризис евроракет 1983 года и пытается манипулировать старыми страхами.

В последнее время китайцы оказывают давление на Россию, чтобы она отказалась от всех этих ядерных угроз. Китай, как растущая ядерная держава, обладающая не только тактическими, но и промежуточными, а теперь и стратегическими ракетами, не хочет, чтобы, образно говоря, тележка с яблоками была опрокинута. А Путин и Россия ведут себя как Ким Чен Ын в Северной Корее, как государство-изгой, шантажирующее всех ядерным оружием.

В ядерном балансе при этом нет изменений, кроме того что Россия разработала гиперзвуковые ракеты, а Соединенные Штаты не довели это до конца. Таким образом, именно Россия изменилась в своем ядерном арсенале. Но Россия занимается шантажом, потому что проигрывает войну в Украине. И вся цель российской власти заключается в том, чтобы заставить Запад отказаться от поддержки Украины. Для этого он пытается сохранить ощущение ядерной угрозы. Он не планирует никакого обмена ядерными ударами. Путин говорит только о том, что может применить в Украине тактическое ядерное оружие. И если бы он мог, он бы так и сделал – если бы думал, что это заставит всех подтолкнуть Украину к капитуляции. Но на данный момент он понимает, что это вызовет ответную реакцию со стороны таких стран, как Китай, а также Организации Объединенных Наций. Он уже напугал Финляндию и Швецию, которые захотели вступить в НАТО, потому что их беспокоит ядерная угроза. И он заставляет людей бояться и беспокоиться по этому поводу.

## Психологическая война

**– Вы умеете читать его намерения. Неужели вы думаете, что человек, который 22 года вместе со всем своим окружением обогащался за счет российского бюджета и стягивал на себя российское богатство, собирается взорвать все ядерной бомбой?**

– Нет, я никогда не думала, что он взорвет все. Но я бы ничуть не удивилась, если бы он нашел способ применить тактическое боевое ядерное оружие для демонстрационного эффекта. Помните, он проводил параллель с Соединенными Штатами, которые создали прецедент с Хиросимой и Нагасаки. Тогда это фактически заставило одну из сторон капитулировать, и закончилась Вторая мировая война. Сейчас совсем другая ситуация. Он проигрывает войну, которую начал, вторгшись в соседнюю страну. И он хочет уничтожить Украину любыми способами, используя беспилотники и баллистические ракеты без ядерных боеголовок. Но если бы он мог действительно остановить войну с помощью боевого ядерного оружия, он бы это сделал.

Сейчас он получает сигнал от всей международной дипломатии о том, что это неприемлемо. Мы все время с 1945 года говорили, что мы не должны были этого делать, и никогда больше не должны применять ядерное оружие. Применение ядерного оружия и ядерная война недопустимы. И он сам подписал соглашение об этом, повторив то, о чем Горбачев и Рейган говорили еще в 1980-х годах, а Байден – в 2021 году.

Я, как и вы, думаю, что парень, который сидит за невероятно длинным столом, потому что боится заразиться ковидом, не похож на человека, который хотел бы оказаться в центре ядерного Армагеддона. Но мы также знаем, что ранее он использовал против своих врагов полоний, использовал яд «Новичок». Это спонсируемый государством терроризм с целью запугать людей. Так что, повторюсь, если бы он мог использовать что-то с просчитанным риском, он бы это сделал.

Вся суть его угроз в том, чтобы психологически победить противника, чтобы все мы подумали: «Ну, у нас нет надежды. Не может быть и речи о том, чтобы выжить после всего этого. Мы просто должны сдаться и капитулировать, сдаться, потому что эти парни так или иначе доберутся до нас. Они безжалостны. И они ни перед чем не остановятся». Но я думаю, что его можно сдержать. Все слышали от президента Си и китайцев: «Мы не считаем, что ядерная война допустима». Премьер-министр Индии Моди сказал: «Сейчас время для мира, а не для войны». Другие страны выражают свой ужас от мысли, что может произойти что-то подобное. Но мы также видим, что Путин пытается сделать оружием не только нефть и газ, но и продовольствие, зерно, удобрения. Совсем недавно российское правительство говорило о выходе из зерновой сделки. Но реакция в мире заставила их пойти на попятную.

**– Эрдоган был очень зол. Он терял деньги.**

– Да. Турция и Организация Объединенных Наций – важные активы для России. Путин хочет взаимодействовать с Турцией как с крупной державой в Черном море. И хочет играть с Организацией Объединенных Наций. ООН – это арена для России, в прошлом русские были там очень эффективны. Путину бы не хотелось, чтобы многие члены Генеральной Ассамблеи были настроены против него, особенно страны того, что раньше называлось Третьим миром, а теперь мы называем глобальным Югом. Эти страны очень зависят от импорта продовольствия, импорта зерна, импорта удобрений. И теперь они знают, что в их проблемах виноваты не санкции Запада.

## Наказание непокоренных

**– Какова его конечная цель? Он разрушает Украину. Мы видим, что люди живут в городах без тепла, воды, электричества.**

– Я думаю, что именно это и стало его конечной целью. Потому что то, чего он хотел добиться, когда начал эту специальную военную операцию – капитуляция Украины – уже недостижимо. Он хотел превратить ее в еще одну Беларусь, то есть в страну, которая полностью зависит и находится под прямым влиянием России. Он ожидал, что все закончится примерно через неделю, максимум через две, в худшем случае это будет похоже на то, что произошло, когда Советский Союз вмешался в дела Чехословакии, Венгрии и Польши. И тогда он будет руководить практически покоренной Украиной. Но произошло прямо противоположное. Украинцы дали отпор, а потом еще и еще. Так что на данный момент – это наказание Украины. Аннексировав не только Донецк и Луганск, которые он уже признал как независимые, но и Запорожье с Херсоном, и заявив, что «Россия здесь навсегда» – он загнал себя в положение, из которого нет пути назад. Он сделал это с такой демонстрацией общественного одобрения – и на церемонии в Кремле, и затем на Красной площади – что очень трудно вернуться без большой потери лица. Так что на самом деле то, что он делает сейчас в результате унижения, – это наказывает, разрушает.

**– Путин все время говорит, что присоединяя территории, он делает то, что делал Петр Великий в 18 веке. Только сейчас 21 век…**

– То, что сделал Путин, и именно поэтому мы должны уделять этому так много внимания, – он поставил под вопрос все европейские границы, не только постсоветские. Он, по сути, говорит: «Я хочу повторить. Я хочу перерисовать карту Европы». Это пугает и поляков, и финнов, и шведов, и прибалтийские страны. Он поставил под вопрос не только постсоветские границы, но и европейские.

**– Как вы думаете, пойдет ли он на полномасштабную европейскую войну?**

– Я бы сказала, что мы уже там. Это третий конфликт великих держав в Европе за последнее столетие. Путин вернул нас в 1918 год, заявив, что Украина не должна существовать самостоятельно: она была создана Лениным и большевиками как республиканская часть Советского Союза. Итак, он возвращается на 100 лет назад и пытается все переделать, к тому же спекулируя терминами Второй мировой войны – «денацификация», «демилитаризация».

Он объявил войну Западу. Путин, по сути, сказал, что это европейская война, повторение пройденного. То, чего мы пытаемся избежать, и я думаю, что он также пытается этого избежать, так это прямого конфликта России с Соединенными Штатами и НАТО. Я имею в виду, что мы наблюдаем определенную сдержанность не только с нашей стороны, но и с его стороны. Это по сути Третья мировая война, о которой все говорят, но с элементами Первой мировой, а также Второй мировой войны – Путин ведет себя как Гитлер. Он следует образцам, которые мы имели в двух мировых войнах. Войны шли в Европе, но распространялись на весь мир.

Сегодня война России в Украине имеет последствия для мировой торговли, рынка нефти и газа, продовольственной безопасности. Такие страны, как Япония и Южная Корея, чрезвычайно встревожены происходящим. Происходящее может создать прецедент для Тайваня, который мы не признали как полностью независимое государство. Но как это повлияет на другие региональные территориальные конфликты? У Индии есть серьезный конфликт не только с Пакистаном из-за Кашмира, но и с Китаем в Гималаях. И Индия рассчитывала на помощь России в противостоянии с Китаем. Этого не произошло. Не так давно Индия и Китай столкнулись в Гималаях, и в результате вооруженного столкновения погибло много людей. Подумайте обо всех других конфликтах в мире, которые могут разгореться из-за этого. Ведь у нас есть Саудовская Аравия, атакующая Йемен. Есть войны внутри Эфиопии.

Это очень тревожно, потому что может стать катализатором для других конфликтов. Мы снова попали в конфликт Азербайджана и Армении из-за Карабаха. Кыргызстан и Таджикистан ведут пограничные бои. При этом Россия потеряла способность к арбитражу.

## Санкции и цели

**– Я разговаривала с некоторыми юристами фирмы, которые работают от имени одного из российских супербогачей. И они спрашивали меня, оправданы ли санкции против физических лиц и создание трудностей для ведения бизнеса?**

– Послушайте, это война. Это сценарий военного времени. Когда вы оказываетесь в ситуации военного времени, это сказывается на экономике. Мы видели разрушение немецкой экономики во время Первой и Второй мировых войн.

**– Но вы думаете, что санкции сработают?**

– Изменят ли санкции цели Путина? Скорее всего нет. Но они могут ограничит его возможности по их достижению. Вопрос в том, какова будет реакция в самой России, начнут ли люди смотреть на мрачные перспективы будущего России и решать, что хватит и что, может быть, Владимира Владимировича следует как бы отодвинуть в другое место.

Конечно, Россия сможет адаптироваться, как это сделал Иран. Но это займет время. И хотя они все еще получают доходы от продажи нефти и газа, им придется заново переориентировать рынки. Там будут издержки упущенных возможностей.

**– Ваши военные аналитики писали, что украинцы смогут сопротивляться не более нескольких дней. Хотя мы видели возможности американской разведки, которая предвидела войну и предупреждала о ней украинских лидеров.**

– У нас много экспертов по российской армии и не так много экспертов по украинским военным. Но те люди, которые работали с украинскими военными, помогая им в реструктуризации армии, имели другое мнение. Они сказали, что украинцы будут воевать.

(Окончание на 6-й стр.)

СКАНДАЛ

# Грошы на бочку!

## Як украінскі футбаліст адсудзіў у брэсцкага «Дынама» каля 600 тысяч еўра.

Украінскі футбаліст **Яўген Хачарыдзі** ў свой час дасягнуў пэўных вышынь у спартыўнай кар'еры – станавіўся трохразовым чэмпіёнам Украіны ў складзе кіеўскага "Дынама", за якое згуляў адзінаццаць сезонаў. Выйграў з камандай два Кубкі Украіны і тры Суперкубкі. Правёў 50 матчаў за нацыянальную зборную і нават згуляў на двух чэмпіянатах Еўропы.

Некалькі матчаў Хачарыдзі правёў за грэчаскі ПАОК (*у Яўгена, дарэчы, грэчаскія карані.* – **Аўт.**), але там не склалася, і ў кастрычніку 2019 года ўкраінскі футбаліст адправіўся па футбольнае шчасце ў брэсцкае "Дынама". Бакі ўдарылі па руках, кантракт беларускага клуба з Яўгенам Хачарыдзі быў падпісаны да канца 2021 года.

Трэба сказаць, што сезон-2019 быў самым яркім для брэсцкага "Дынама" – каманда стала чэмпіёнам краіны і была на вяршыні сваіх фінансавых магчымасцей, бо пад сваё "крыло" клуб узяў беларускі бізнесмен **Аляксандр Зайцаў**. У тым сезоне знайшліся грошы нават на тое, каб запрасіць у Брэст легендарнага **Дыега Марадону**, які прыязджаў у абласны цэнтр, трэба думаць, не з-за любові да шэраговага беларускага клуба, пра які Марадона раней, хутчэй за ўсё, ніколі і не чуў. Але, як кажуць, хто плаціць – той і заказвае музыку. А грошы патрэбны ўсім – нават Марадону.

Менеджар Яўгена Хачарадзі пасля таго, як яго "кліент" перайшоў у брэсцкае "Дынама", запэўніваў спартыўную грамадскасць, што фінансавае пытанне пры трансферы не стаяла. Маўляў, іграку важна было патрапіць у клуб з амбіцыямі, з добрым калектывам, каб ён ізноў выходзіў на поле, бо да гэтага Хачарыдзі не гуляў амаль год. Пра заробак футбаліста агент не распаўсюджваўся, але ў некаторых СМІ з'явілася інфармацыя, што гадавы заробак украінскага футбаліста дасягаў 450 тысяч еўра ў год. Такім чынам, за два сезоны Яўген Хачарыдзі мог зарабіць каля мільёна еўра.

Трэба сказаць, што ў новым клубе зорак з неба Хачарыдзі не хапаў. У 2020 годзе ён згуляў у чэмпіянаце Беларусі за



"Дынама" ўсяго 16 матчаў і забітымі галамі не адзначыўся. А вось у скандалы трапляў рэгулярна: з-за паводзін на полі, пасля таго, як сабраўся ўдарыць пасля матча галоўнага арбітра **Сяргея Чыстова**…

Стала зразумела, што ўзаемнай любові не атрымалася, і ўжо на самым пачатку 2021 года з'явілася інфармацыя, што ўкраінскі абаронца пакіне брэсцкае "Дынама". А праз нейкі час чуткі трасфарміраваліся ў рэальнасць: у студзені 2021 года кантракт з іграком быў скасаваны. І далей баталіі ўжо выйшлі за межы футбольнага поля: пакрыўджаны футбаліст запатрабаваў ад брэсцкага клуба выплаціць яму кампенсацыю – 1 мільён еўра. За датэрміновае скасаванне кантракта. І паабяцаў: калі беларускі клуб адмовіцца выконваць свае абязальніцтвы, ён пройдзе ўсе судовыя інстанцыі.

Трэба адзначыць, што ў тым жа 2021 годзе "Дынама" пакінуў не толькі Яўген Хачарыдзі, але і некаторыя іншыя вядомыя ігракі. Клуб перастаў быць цікавым бізнесмену Зайцаву, той пераключыўся на новы футбольны праект, і чэмпіён Беларусі 2019 года ў матэрыяльным плане ізноў апынуўся амаль што ля разбітага карыта. Клуб, натуральна, нікуды не знік, але перайшоў на фінансаванне з дзяржаўнага бюджэту. І новае кіраўніцтва "Дынама", як паказала гісторыя, не гарэла вялікім жаданнем аддаваць грошы ўкраінскаму футбалісту. Маўляў, са старымі пазыкамі няхай старое кіраўніцтва і разбіраецца.

*"Яўген Хачарыдзі і ФК "Дынама-Брэст" заключылі двухгадовы кантракт – да канца 2021 года,* – распавядаў затым агент украінскага футбаліста **Ілля Скарапашкін**.

*– Клуб пацвердзіў, што парушэнні ўмоваў кантракта сапраўды былі і правы іграка на датэрміновае скасаванне кантракта не аспрэчваў. Былі затрымкі па выплатах заробку, прадугледжаных ўмовамі кантракта. Патрабаванні аб выпраўленні гэтых парушэнняў не былі задаволены і парушэнні не былі выпраўлены ў тэрмін, які прадугледжаны рэгламентам.*

*Мы звярнуліся ў клуб з патрабаваннем аб выплаце кампенсацыі, але атрымалі адмоўны адказ. Таму спрэчная справа перададзена на разгляд кампетэнтных юрысдыкцыйных органаў футбола. Незалежна ад таго, які на гэты момант прававы статус і форма ўласнасці футбольнага клуба "Дынама-Брэст", ён з'яўляецца спартыўным правапераемнікам, які атрымаў у спадчыну турнірныя дасягненні і, суадносна, фінансавыя абязальніцтвы папярэдняга суб'екта футбольных правааднасін".*

Ніхто з брэсцкага "Дынама" не жадаў добраахвотна аддаваць грошы ўкраінскаму футбалісту, і тады спрэчнае пытанне давялося вырашаць у судзе. У жніўні 2021 года палата па вырашэнні спрэчак ФІФА задаволіла іск Хачарыдзі да брэсцкага клуба, што не задаволіла кіраўніцтва клуба. Клуб абскардзіў рашэнне ў Міжнародным спартыўным арбітражным судзе, але той ізноў заняў бок футбаліста і абавязаў разлічыцца з украінцам, выплаціўшы яму 600 тысяч еўра.

Пытанне заставалася толькі ў тым: з чыёй кішэні возьмуць гэтыя грошы? Выдаткі кампенсуе Аляксандр Зайцаў, які раней фінансаваў брэсцкае «Дынама», ці разлічвацца будзе сённяшняе кіраўніцтва клуба?

І вось днямі старшыня Брэсцкага аблвыканкама **Юрый Шулейка** радасна заявіў, што да бізнесмена Зайцава звярнуліся з просьбай закрыць даўгі за падпісаны пры ім кантракт, і той аказаўся не супраць расплаціцца.

Адным словам, як не круціліся кіраўнікі брэсцкага клуба, але не выкруціліся. Як кажуць: грошы на бочку!

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ВЕРСИИ

# «Путин хотел превратить Украину в еще одну Беларусь»

*(Окончание. Начало на 5-й стр.)*

Я не думаю, что можно было предвидеть масштабы всего этого, но мы вмешались, чтобы помочь оснастить украинских военных. С 2014 года украинцы находятся в состоянии боевой готовности и перестраиваются, потому что фактически с 2014 года они находятся в состоянии войны с Россией. У них было много времени на подготовку.

Начиная с 2014 года Украина была второй страной после США по количеству кибератак. И как вы знаете, в Силиконовой долине многие русскоязычные эксперты по информационным технологиям – украинцы.

Все виды украинских киберэкспертов в области информационных технологий были постоянно сосредоточены на угрозах кибератак. Эквиваленты украинского киберкомандования работают с Соединенными Штатами и другими европейскими союзниками уже очень долгое время.

Так что они опередили все это. Просто все мы забыли, что Россия вторглась в Украину в 2014 году, и что они сделали это снова в 2022 году, для многих в Украине это было продолжение агрессии.

**– Если США знали о вторжении и понимали, что собирается делать Путин, почему НАТО не поставило Украине HIMARS и другое современное оборудование гораздо раньше? Почему вы не закрываете небо?**

– Никто не планировал огромную длительную войну. Одна из проблем, с которой мы все сталкиваемся, это предположение, что у нас повсюду полно всякой всячины. На самом деле это не так, я имею в виду, что у нас есть производство вооружений, но у нас есть свои долгосрочные планы, и мы производим в соответствии с этими планами. Никто не планировал конфликт такого масштаба.

Так что на самом деле не так уж просто отдать украинцам все вооружение. Сейчас мы знаем, что страны Балтии и Польша передали практически все, что у них есть. Но Соединенные Штаты – глобальная держава, и мы обеспокоены тем, что происходит в других местах. Поэтому одним из вопросов здесь было то, как Соединенные Штаты и другие европейские страны работают вместе над тем, чтобы обеспечить снабжение Украины в долгосрочной перспективе. Многие из этих вооружений не находятся в производстве, их нужно наращивать, как произошло в США во время Второй мировой войны: мы превратили все наши автомобильные заводы в заводы по производству танков, а затем в мирное время снова превратили их в автомобильные заводы. Во время войны вы наращиваете производство.

Россия сама не была готова к этому, и у России сейчас тоже проблемы.

### Игра с супербогатыми

**– Путин не считает лидеров демократических странах равными себе. Они приходят и уходят, а он сам и председатель Си остаются. Более-менее равными себе он видит американских супербогачей. Илон Маск – один из них. С одной стороны, Skylink Илона Маска оказал большую услугу украинцам, предоставив надежный доступ в Интернет. С другой стороны, он один из сторонников идеи «Земля в обмен на мир». Можете ли вы представить нам беседу Маска и Путина, которую они вели или ведут? Какие аргументы Путин использует с такими людьми?**

– Я не уверена, что Путин встречается со всеми этими людьми напрямую. Могут быть посредники – другие деловые люди. Это связано с отношениями и взаимодействием в течение очень долгого периода времени между сверхбогатыми людьми в России и сверхбогатыми людьми во всем мире. Многие из этих взаимодействий могут происходить сейчас в Дубае, а раньше могли происходить, например, в Лондоне или здесь в Нью-Йорке.

**– Откуда у Маска эта идея?**

– Путин очень ясно дает это понять в течение длительного периода времени. Я полагаю, каждый российский олигарх и богатый бизнесмен, который с ними общался, слышал это. Илон Маск – самый богатый человек в мире. Конечно, Путин попытался найти различные способы добраться до него через посредников. Это такие люди, как Генри Киссинджер, например. Это очень тесный круг, они все знают друг друга, постоянно встречаются, постоянно разговаривают. Конечно, Путин пытается прощупать, как далеко готовы зайти люди, чтобы угодить ему. Пытается увидеть, как люди реагируют, и насколько будет лучше, если кто-то вроде Илона Маска, Киссинджера или Папы Римского озвучит то, чего он хочет.

**– В одном из интервью вы сказали, что когда вы были в Совете национальной безопасности, вы видели, как Путин посылал посредников к вам и к другим политикам в Белом доме. Кто были эти люди?**

– Люди, которые имеют связи в Соединенных Штатах. Они лоббисты, они могут представлять интересы России, и они могут просить о встрече. С началом войны многие из тех групп, которые представляли российские интересы, отступили, потому что сейчас это явно не то же самое, что было раньше.

### Спасти!

**– Есть вопрос, который я должна вам задать, потому что это очень важно. Он касается Алексея Навального, оппозиционера, который сейчас находится в тюрьме. В прежние времена, как мы знаем, советских политзаключенных иногда обменивали на шпионов или коммунистических лидеров. Возможно ли это сейчас?**

– Мы помним об этом и постоянно держим в центре внимания. И я хочу сказать, что это не только вопрос Соединенных Штатов, но и Организации Объединенных Наций, Amnesty International и многих других международных организаций.

Навальный невероятно храбр. Он, наверное, самый смелый человек на свете. В отличие от Путина и его приближенных: эти парни прячутся за преторианской гвардией, кремлевскими стенами и огромными телохранителями, они боятся потерять свою власть. И они боятся поражения в Украине, потому что Путин знает, что это может значить для него лично.

Навальный совершенно другой человек, он человек, который может возглавить революцию, и он прямо говорит, что собирается сделать. Он говорит: «Я хочу быть президентом». У него есть это моральное мужество, и поэтому даже если люди не поддерживают его политически, его смелость заразительна. Путин торгует страхом, а Навальный, Яшин, Кара-Мурза – оппозиционеры в тюрьмах – торгуют смелостью. Не бояться – это лучшее, что они сказали всем.

К сожалению, я не думаю, что есть много шансов вытащить их. Я не думаю, что они захотят обменять Навального и других на кого-либо в данный конкретный момент, потому что Путин слишком боится, что они окажутся на свободе. Это страх перед политической оппозицией, ее подавление и желание обезглавить.

**Евгения АЛЬБАЦ.**

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ



## Не той прыбор зладзюга спёр

У Гродна 45-гадовы мужчына "пад мухай" занепакоіўся сваім здароўем. Ён забег у аптэку, схапіў з прылаўка лічбавы тэрмометр і ўцёк. Узбуджана крымінальная справа па артыкуле "Рабаўніцтва".

Вядома кожнаму ў народзе
І скажуць вам стары й малы,
Што маюць градусы ў прыродзе
Тэмпература і вуглы.
Але найперш вам скажа кожны
(Тым больш прапойцы, рвань ды голь),
Што ў градусах ацэньваць можна
Спірт і наогул алкаголь.
Не мераюць адным прыборам
Тэмпературу і віно.
Якраз пра гэта пагаворым.
Засопшыся, не так даўно
Мужык заскочыў у аптэку,
Вачыма лыпаць стаў вакол.
Магчыма, трэба чалавеку –
І тэрмінова – валідол?
А мо, прабачце, да кандома
Меў дзядзька пільны інтарэс?
Хоць не было пакуль вядома,
Ды нешта трэба пазарэз.
І рады быў мужык без меры,
Як згледзеў ён якісь прыбор.
Схапіў яго і шусь за дзверы!
Сказаць іначай – проста спёр.
Аптэкарка павалюхала
З ім услед.
– Зладзюга, стой!
Ёй на рабоце плаціць мала,
Яшчэ й аддасць заробак свой.
Была пагоня хуткай вельмі,
І драла даць мужык не змог,
Бо рабаваў, заліўшы бельмы,
Калі ўцякаў – валіўся з ног.
Задаў пытанне неўзабаве
Яму ў міліцыі маёр
(Ён допыт вёў па гэтай справе):
– Навошта быў табе прыбор?
Ты ўкраў яго сп'яна ці здуру?
Тым больш што атрымаўся пшык…
– Хацеў сваю тэмпературу
Памераць я, – сказаў мужык, –
Бо арганізму вельмі блага,
Гарыць-палае ўсё ўнутры,
А раніцой даймае смага.
Яшчэ сканаю без пары,
Не дажыву, на жаль, да лета…
Таму прыбор такі і спёр!
Яму, "няшчаснаму", на гэта
Сказаў з ухмылкаю маёр:
– Адной нагою ты ў магіле,
Дык загадзя папа заві,
Бо ўжо не градусы – праміле
Патрэбна мераць у крыві.
Не ўсмак ясі, ды п'еш уволю,
І галавой сваёй пустой
Ты не даўмеў: для алкаголю
Патрэбны "градуснік" не той…

## Бясплатны адвакат

Бясплатны адвакат па-чалавечы
Паспачуваў "падшэфнаму" свайму
І аказаў паслугу, калі рэчы
Адвезці дапамог яму ў турму…

## Сапраўдныя мужчыны

Фарбуюць (тут няма навіны)
Свае пазногцікі тайком
І мужыкі, нібы феміны.
Аднак сапраўдныя мужчыны
Фарбуюць толькі малатком!

## Фантазёрка

Адна дзябёлая кабета
Так расказала мне пра "гэта":
– Прызнаюся: часінай той
Сябе ўяўляю я худой,
А мужа – сексуальным хватам.
Але галоўнае – багатым…

## Не дачакаюцца…

Яшчэ ў людзей запал не згас,
І вераць нашы грамадзяне,
Што прыйдзе іх шчаслівы час!
Ды іх, як прыйдзе ён, не стане…

## Першым чынам

Калі вярэдзіцца душа
Ці проста дапякае боль,
Мы ў леках вывучым спярша:
Ці сумяшчальны алкаголь…

## Найлепшыя чары

Усякім выражбіткам грош цана,
Яны галовы дураць нам, лічы.
А чарамі найлепшымі здаўна
У нас усё ж лічыліся баршчы.

